# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 49 (249) | ГОД V | БЕЛАСТОК, 4 СНЕЖНЯ 1960 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


## НА НАШАЙ ЭСТРАДЗЕ

## У ДЗЕНЬ НАСТАЎНІКА

Урачыста адзначыла наша грамадскасць Міжнародны дзень настаўніка. У гарадах і вёсках адбыліся акадэміі і вечарыны, на якіх настаўнікам былі ўручаны кветкі, кніжныя, рэчавыя і грашовыя ўзнагароды.

Прэзідыум Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства, дацэньваючы ўклад настаўнікаў у працу нашага Таварыства, прызнаў тры грашовыя ўзнагароды — па 500 зл. кожная — настаўнікам, якія вылучаліся ў працы БГКТ.

Узнагароджаны наступныя настаўнікі: Мікола Лебядзінскі (Беластоцкі павет), Аляксей Карпюк (Бельскі павет) і Аляксандр Харкевіч (Гайнаўскі павет).

Узнагароды былі ўручаны на павятовых урачыстых акадэміях. Ад імя Прэзідыум ГП БГКТ узнагароды ўручылі: у Бельску — старшыня ГП БГКТ Ліда Бялецкая, у Гайнаўцы — член Прэзідыума ГП БГКТ Яўген Гарустовіч, у Гарадку — актывіст ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі.

## УВАГА, ЧЫТАЧЫ!

**ШТО БУДЗЕМ ЧЫТАЦЬ У 1961 ГОДЗЕ?**

ШМАТЛІКІМ ЧЫТАЧАМ ПАДАБАЮЦЦА АПОВЕСЦІ, ЯКІЯ МЫ ДРУКУЕМ У «НІВЕ» І ЯНЫ ДАПЫТВАЮЦЦА, ЯКАЯ БУДЗЕ НАСТУПНАЯ АПОВЕСЦЬ.

КАБ ЗАДАВОЛІЦЬ ЗАЦІКАЎЛЕНЫХ, А ТАКСАМА ШЫРОКІЯ КОЛЫ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ, ПАВЕДАМЛЯЕМ, ШТО НАСТУПНАЙ АПОВЕСЦЮ «НІВЫ» БУДЗЕ СЕНСАЦЫЙНАЯ ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ АБ САВЕЦКІХ ПАРТЫЗАНАХ. УЖО ЦЯПЕР МОЖАМ ЗАПЭЎНІЦЬ АМАТАРАЎ ДОБРАЙ КНІЖКІ, ШТО ГЭТА БУДЗЕ САМАЯ ЦІКАВАЯ І НАЙБОЛЬШ ХВАЛЮЮЧАЯ АПОВЕСЦЬ З УСІХ ТВОРАЎ, ЯКІЯ МЫ ДРУКАВАЛІ.

ДРУКАВАЦЬ ЯЕ ПАЧНЕМ АДРАЗУ ПАСЛЯ НОВАГА ГОДА.



Соло на саксафоне выконвае мастацкі кіраўнік эстрады БГКТ Міхаіл Ануфрыеў.



Ліля Гайдук і Янка Крупа ў беларускім народным танцы «Крыжачок».



Песні ў выкананні салісткі эстраднай групы Ніны Свентахоўскай напэўна спадабаюцца глядачам.

З песнямі, музыкай, жартамі і вясёлымі сцэнкамі паедзе ў нашыя вёскі новаарганізаваны беларускі эстрадны калектыў.

Эстрадную групу стварыла самое жыццё. Не кожная вёска, не кожны населены пункт мог стварыць умовы да прыняцця вялікага калектыву песні і танца пры ГП БГКТ. Для гэтага патрабавалася даволі вялікая сцэна, якую не заўсёды можна было знайсці. Гэты недахоп паправіць значна меншая па колькасці ўдзельнікаў эстрадная група, якая і паставіла сабе за мэту даехаць з песняй, музыкай і народным танцам да кожнай, нават найбольш адлеглай вёскі.

Зараз пад вопытным вокам мастацкага кіраўніка эстраднай групы Міхаіла Ануфрыева ідзе ажыўленая падрыхтоўка да выездаў.

Адбыўся ўжо першы пробны канцэрт, на якім прысутнічалі члены Галоўнага Праўлення. На гэтым канцэрце пабываў і наш фотарэпарцёр, а што пабачыў, пераказвае вам.

Тэкст і фота (пч)



— Не сварыся ты Марыся, лепей толкам разбярыся... Жартоўная сцэнка ў выкананні Веры Леўчук і Янкі Валендзюка.

## Ці ты ўжо зрабіў падпіску на „Ніву” на 1961 год?

# Літаратурная старонка

Трыбуна Беларускага літаратурнага аб'яднання

№ 29


## Алесь СВІСЁК

* * *

Застраміў я сабе сэрца.  
Рана  
здавалася маленькай,  
не балела.  
Але сэрца  
зацвіло нарывам і агнём.  
Мучуся.  
Не магу спаць.  
Начамі лічу зоры;  
а ўдзень  
мне месца не найсці нідзе.  
І, калі нельга ўхіліцца ад людзей,  
паказваю ім твар вясёлы  
і часам іх усмешкаю вітаю,  
хоць слёзы паднімаюцца ў грудзях,  
і граюць.  
А стрэмка уваходзіць усё глыбей  
і боль усё мацней...  
І што ж далей?  
Ці выйдзе стрэмка з сэрца?  
Ці мо' згарыць яно,  
з нарывам разарвецца?  
Бо стрэмкі выкінуць  
не можа  
і... не хоча,  
бо ў ёй зачараваны сілаю варожай  
шчасця кусочак.

## ПАСЛЯ-З'ЕЗДАЎСКІЯ РАЗВАЖАННІ

З'езд. Гэта гучыць надта сур'ёзна і афіцыйна. У сапраўднасці ж у памяшканні рэдакцыі «Нівы» сабралася невялікая група (22 асобы) пераважна маладых людзей, якія спрабуюць свае сілы ў літаратурнай творчасці. І наколькі назва «З'езд» гучыць звонка, настолькі атмасфера з'ездаўскіх спрэчак нагадвала сумнае асенняе надвор'е. У выказваннях не адчувалася бадзёрасці і запалу — так характэрных прыкмет маладосці, той маладосці, якая павінна ўздзейнічаць на псіхіку сучасніка.

Нямалаважнай прычынай нейкай санлівасці ў спрэчках з'яўляецца, на маю думку факт, што члены Літаб'яднання, за выключэннем А. Барскага, В. Шведа і Я. Бурша, не могуць, нажаль, пахваліцца шырэйшымі творчымі дасягненнямі.

Большая колькасць паэтычных твораў нашых мастакоў слова, быццам хмель, уецца вакол адвечных тэм кахання і цудоўных з'яў прыроды. У спрэчках адзначалася, што гэта «хвароба росту», хвароба характэрна пачынаючым. Малады паэт, быццам дзіця, захапляецца акружаючай яго рэчаіснасцю і быццам дзіця мусіць у голас выказаць сваё захапленне. Нярэдкія, урэшце, бываюць выпадкі, калі першае, шчырае каханне, быццам каталізатар, становіцца першакрыніцай спелай ужо прафесіянальнай творчасці. І не справа ў тым, каб наогул прыродзе і каханню замкнуць доступ у паэзію. Жыццё чалавека багатае, шматграннае і разнастайнае. Нямалая частка яго сплятаецца з прыродай і каханнем. Аб тым нельга забываць. Але няма ніякага сэнсу перапяваць гэтага, што ўжо значна лепш зрабілі, напрыклад, Петрарка, Байрон, Гэтэ, Пушкін, Міцкевіч, Купала ці Колас. Да тых адвечных тэм трэба ўліць новы рытм, новую форму, каб пачуўся ў іх пульс нашай рэчаіснасці, нашага жыцця. Інакш, думаю, паэтычны шлях нашых творцаў завязне недзе ў сферы аджыўшых тэм і вобразаў.

Паэтычная творчасць павінна знаходзіцца на перадавых пазіцыях барацьбы за чалавечае шчасце, павінна спадарожнічаць усім праявам сённяшняга дня. У нашым багатым падзеямі свеце павінна паказваць людзям шчасце стваральнай працы, трыумф чалавека над сіламі прыроды, даслоўна ўсё, што дае нам мір.

На нашых вачах адбываюцца вялікія пераўтварэнні. Мяняецца аблічча вёскі, а з ім звычаі і побыт людзей. Пісьменнік не можа астацца бесстароннім назіральнікам гэтых з'яў. Ён павінен таксама звярнуцца да невычэрпных крыніц нашага фальклору. А ці не можна, напрыклад, злажыць букецік твораў дабрадзейнаму трактару, які змяняе наш родны краявід, пракладае шлях лепшаму жыццю. Хтось мог бы сказаць, што гэткія творы прыніжаюць мастацкую вартасць верша. А справа тут зусім не ў тым, — скажам мы гэткаму руплівому за справы паэзіі чалавеку. Усё залежыць, менавіта, ад вынаходлівасці аўтара, ад мастацкага ўзроўню твора, які адкрыў бы цудоўным машынам, аблягчаючым працу чалавека, зялёную дарогу ў паэзіі.

У наш час неабходны творы высокага грамадскага гучання, якія выходзілі б з вузкіх рамак асабістых перажыванняў на шырокія прасторы жыцця. На маю думку, гэтым справам прысвечана на з'ездзе недастатковую ўвагу. Толькі Алесь Барскі ў сваім цікавым і змястоўным дакладзе п. з. «Творчасць пісьменніка, а рэчаіснасць», а потым у спрэчках і старшыня ГП БГКТ тав. Уладзімір Станкевіч закранулі гэтае важнае пытанне.

Цяжка адразу выказаць усе думкі, якія насоўваюцца ў сувязі з адбыўшымся З'ездам. Думаю, што яшчэ не адзін раз будзе аказія вярнуцца да з'ездаўскіх пытанняў. Пакуль што, сябры, на заканчэнне хочацца сказаць: — Не дакучайма празмерна галлю пасівелай бярозкі. Давайце на месяц паляцім ракетай не толькі таму, што бачым там вочы сінія, чорныя або іншыя.

**ВІКТАР РУДЧЫК**

## СУРВЭТКІ

Горад будзіўся. Загрукаталі трамваі, пабеглі навыперадкі людзі. Людзей на вуліцы з'яўлялася ўсё больш і больш. Яны мітусіліся, разыходзіліся ва ўсе напрамкі. У кожнага была нейкая справа, кожны недзе спяшаўся. Раўлі сірэны фабрык, цягнікі са свістам улятАлі на станцыі і развязваўся рукаў: новая партыя народу ўлівалася ў вуліцы поўныя па берагі. Над усім панаваў шум.

Дзе сустрэнеш большы галас, як не на рынку. Ідзеш сярод расстаўленых крамаў, а табе ў вочы прадавец крычыць: «Чаго, паночку, можа гэта, а можа гэта» і тыкае пальцамі ў збанкі ці нейкія падазроныя чаравікі. Другі зноў хваліць сваё гнілое сала, трэці прадае нейкую новую штуку і час ад часу крычыць, быццам спалоханы пятух: «Тоооолькі да мяне, да мяне!..»

Непадалёку ад другіх, на прыкметным месцы стаяла дзяўчынка гадоў чатырнаццаць, не больш, у парваных чаравіках, рупліва захінаючыся доўгаю хусткаю ад ветру і снегу. Яна прадавала настольныя сурвэткі. Да яе падыходзілі жанчыны, разгарталі тавар, цанілі.

— Па колькі? — пыталіся ў яе.

— Трыццаць, цётка, як дарма... трыццаць, — гаварыла дзяўчынка.

Жанчыны прыглядаліся, мацалі пальцамі. Яна бачыла, што зноў і гэтыя не купяць.

— Трыццаць толькі хачу, больш не. Добрыя сурвэткі, мама рабіла, — заахвочвала яна.

Але ніхто не браў сурвэтак. Ёй утыкалі памяты тавар у адубелую руку і адыходзілі зусім няЧулыя на просьбы, абыякавыя. Вось так было ад раніцы. Яна сюды прыйшла як толькі зара пачала займацца. Думала, што першая прадасць, грошы схавае глыбока і шчаслівая пойдзе дахаты.

Было каля поўдня. Людзі падыходзілі да яе, але ніхто не купляў сурвэтак. Тады яна сама пачала напрошвацца сваім таварам, стала крычаць:

— Сурвэткі, танныя, ад найменшага да самых вялікіх памераў... сурвэткі...

Смяяўся жыватасты прадавец, стоячы ля сваёй крамы, з маленькай дзяўчынкі, што вунь, непадалёку ад яго, стаяла і хацела прадаваць сурвэткі па трыццаць злотых. Ён чухаў сабе тлусты, наліты карк.

— Э-ге! Каб прадаць, трэба ўмець, — мармытаў сабе пад носам.

Людзі ахвотна куплялі ў яго і сурвэткі, і цацкі для дзяцей, і нешта ў бутэлечках, шчыльна заткнутых ватаю. А сурвэткі прадаваў па дваццаць пяць злотых за штуку, і работа ішла, як па масле. Той купіць, ды яшчэ падзякуе, другі пастаіць над яго таварам, палюбуецца і ўсё ж лягчэй чалавеку.

— А ты, кураня, стой у снегу, пакуль не скарчанееш, а прадасі ты фігу, вось што, — думаў сам сабе прадавец.

— Сурвэткі, танныя, ад найменшага да вялікіх памераў... сурвэткі, — крычала дзяўчынка.

Людзі праходзілі міма яе. Ці не заўважвалі маленькую постаць у снягу ці проста знарок абміналі яе — цяжка тут сказаць. А яна крычала, голас яе з кожным вымаўленым словам слабеў, ставаўся ўсё больш ахрыплым.

Агеньчык надзеі бліснуў, калі да яе падышла пажылая жанчына. Прыветліва ўсміхнуўшыся, яна папрасіла:

— Пакажы, дзіця, што ты маеш?

— Сурвэткі... мама рабіла... купіце...

Тым часам жанчына, скінуўшы пальчаткі, разглядала з усіх старон сурвэткі. Туды - сюды заглядала, круціла ў паветры, у пальцах памяла, прабавала ці расцягваюцца.

— А колькі ж ты хочаш за гэта? — запытала яна, нягледзячы на дзяўчынку.

— Мама... мама прыказалі па трыццаць.

— Гм... нічога сабе, работа добрая, узорыста, па-новаму, нібыта сказаць. Глядзі ты, кветкі... Тут кветка, ружа не ружа, можа другая, там кветка. Гм... сіметрычна, тут і тут, так... — і яна яшчэ пэўна хацела нешта сказаць, але яе перабіла дзяўчынка, якая цяпер на першы погляд, ажывілася, у яе вачах зазіхацела дзіцячая даверлівасць.

— Дык купіце?..

Жанчына так глянула ў яе тварык, што маленькая прадаўшчыца зусім не сумнявалася ў тым, што яна можа не купіць. Адразу перад яе вачыма ўсплыў вобраз маці.

— Ды не, дзіця, купляць я не намервалася. Я, бач, узоры разглядаю, сама збіраюся ў вольны часок вось так пабавіцца.

Уваткнуўшы ў руку сурвэтку, жанчына спакойна пайшла ўздоўж хітра расстаўленых крамаў, заглядаючы кожнаму як сарока ў косць.

У вачах дзяўчынкі закруціліся слёзы. Яна ўжо не захваляла свой тавар. Закрыўшыся рукавом, плакала і плакала, можа нават не чуючы, як непадалёку ад яе смяяўся з налітым каркам прадавец, збіраючы пустыя скрынкі і скрыначкі.

— Мне няма чаго наракаць на дзянёк, а -ха-ха-ха! — рагатаў ён.

Рынак пусцеў. Крамы палохалі сваімі шкілетамі, вецер, здаецца, разгульваў цяпер тут з большай сілаю, аж парыпвалі спарахнелыя дошкі. Жыццё павольі замірала на гэтым кавалачку зямлі. Снег, які было ўжо перастаў падаць, пачаў ізноў валіць камякамі.

**І. ЧЫКВІН**






— Не будзь ідыётам! Я з'яўляюся членам Таварыства аховы звяроў.



— Я вельмі ўважліва сачыла за ўсёй сустрэчай. Здаецца мне, што асабліва апошні ўдар быў для цібе фатальны.

## ІГОЛКІ

Іголкі — дробязь, а ў хаце без іголкі як без рук.

— Купі, Максімка, дзесятку іголак, — папрасіла Маланка мужа, які збіраўся ў горад.

— Ты і без іголак добра колеш, — адазваўся Максім, нацягваючы шапку, і выйшаў з хаты.

Выехаўшы з кумам за вёску, Максім выцягнуў хустачку і, паказваючы куму, сказаў:

— Бачыш, вузялок для памяці, іголкі трэба купіць.

Аб чым гутарылі далей яны — невядома, але прыехаўшы на рынак і распрадаўшы прывезеную ўсячыну, кум сказаў:

— Клопатаў па горла, а перакусіць няма чаго.

— Голад не цётка, пірагоў не падсуне, — згадзіўся Максім.

Разважыўшы гэта, яны вырашылі схадзіць у сталоўку.

Толькі яны ўвайшлі ў сталоўку, як з-за століка ў кутку пачуўся вясёлы крык:

— Колькі год, колькі зім, жыў Максім!

Здзіўлены Максім пазнаў знаёмага і з кумам накіраваўся да століка ў кутку.

— Вітаю, Ляксей, вітаю, век не бачыліся, — сказаў Максім, сядаючы. — Што новага ў Баранім Бродзе?

— У нас у Бродзе сельгасмашыны ў модзе, — адказаў той і звярнуўся да афіцыянткі:

— Эй, прыгажуня! Прыцягні метр каўбасы ды пойла піўнога.

Максім ад сябе таксама зрабіў адпаведны заказ і неўзабаве на стале з'явілася гара ежы і пiцця.

— Не забудзь, пра іголкі прыпомні, — папрасіў Максім кума.

Праз паўгадзіны кум цалаваўся з Ляксеем, а Максім, выціраючы хустачкай вусы, мармытаў:

— Ну і гіцаль кум, вузялок змайстраваў мне, бы п'янаму, а я цвярозы, як аптэкар... гік...

Вярталіся позна. Калі Максім увайшоў у хату, Маланка прачнулася, і праціраючы вочы, спытала:

— Пра іголкі не забыў?

Максім заморгаў вачыма і сказаў:

— Іголкі дробязь, а знайсці цяжка. У горадзе, Маланка, магазіны пустыя. Страх гаварыць, напэўна зноў падвыжка будзе.

— Пустыя, кажаш, а водка была. Нясе ад цябе як ад памыйнай ямы! — накінулася Маланка.

— Ляксей паставіў, — апраўдваўся Максім. — Кажа: змучыўся ты, Максім, бегаючы за іголкамі, выпі за здароўе Маланкі, а іголкі дастанеш у Баранім Бродзе. Там увесь Гэас сядзіць на іголках, чакаючы кантролю...

Максім спыніў гутарку, прыдумваючы аб чым хлусіць далей, але Маланка ўжо пасвістывала носам.

Чытачы мілыя, дык у нас шмат хто забывае пра хатнія справы, калі да горада дабярэцца.

Дзядзька Левон

Народны гумар Беласточчыны

## КРУЦЁЛКІ З-ПАД КАРЫЦІНА

*

Эй, басы, басы,
Вары, баба, келбасы!
А для каго? Для дачкі,
Жэ б любілі дзецючкі!

*

Сыра ліпа пагарэла,
Мая жонка пастарэла.
Я старую замардую,
Возьму сабе маладую.

*

Пашла Ганьдзя па цыбулю.
Пастой, Ганьдзя, пацалую!
Пацалую, не укушу,
Бо люблю цібе як душу!

*

Пашла Ганьдзя па буракі,
А за ею два казакі.
Узелі Ганьдзю і прагналі,
І буракі адабралі.

*

А мой ты Адамку,
Прымі то за жарты!
Дам табе піва гарнец
І водкі поўкварты.

**Міхал Фэдароўскі «Люд беларускі», том VI.**

### У СУДЗЕ

Суддзя да абвінавачанага:

— Чаму вы ў адным тыдні тры разы ўзломліваліся да гэтага самага магазіна?

— Бо я ўкраў там спадніцу для жонкі і мусіў гэту спадніцу тры разы мяняць, каб дагадзіць жонцы, — адказаў абвінавачаны.

**Вася Кіндзюк**
Дубіны



На пажары.




### НЕ КУРУ

Аднойчы бацька, седзячы са сваім шаснаццацігадовым сынам, кажа:

— Ты, Колька, ужо сапраўдны мужчына. Я дашоў да вываду, што ўжо можна табе час ад часу дазволіць на папяроску. Калі ласка, сынок, можаш закурыць.

— Дзякую, татачка, але ўжо год часу прашло, як я не куру, — адказаў Колька.

**П. Мартынюк**
Варшава

### НАРЫСАВАЎ

Вася прыйшоўшы са школы гаворыць:

— Мама, сёння мы рысавалі партрэт нашага настаўніка.

— І хто найпрыгажэй нарысаваў? — пытае маці.

— Я — адказаў Вася.

— І таму настаўнік сказаў, каб я без бацькоў у школу не прыходзіў.

**Пеця Іванюк**
Плёскі

### ЧАМУ НЕ АРЭ

Аднойчы сусед, узяўшы плуг, пайшоў у поле. Зашоў, стаў і думае. У гэты час праходзіў міма яго сябра.

— Чаму ты не арэш?, — спытаў ён суседа.

— Бо каня забыўся, — адказвае сусед.

**Янка Лапінскі**
Тынкоўшчына

### ЦЯЖКАЯ ХВАРОБА

П'яны селянін пашоў да лекара і кажа:

— Што ў мяне за хвароба, не магу на нагах стаяць?

Паслухаў лекар селяніна і кажа:

— У цябе цяжкая хвароба, трэба рабіць аперацыю на сон.

І загадаў селяніну легчы. Той як лёг, так і заснуў. Прачнуўся цвярозым. Устаў, бачыць: цвёрда стаіць на нагах. Здаволены, што вылечыўся з цяжкай хваробы, заплаціў лекару грошы і бадзёра пашоў дамоў.

**Сяргей Франкоўскі**
Хойлы

### ПАЗЫЧКА

— Слухай, Коля, пазыч мне сто злотых на адзін дзень.

— Столькі табе не пазычу. Пазычу адну залатоўку на сто дзён.

**Надзя Зенюк**
Асоўка

## Шпітальны гумар





